# НАВІНЫ

Беларускага Народнага Фронту за перабудову «Адраджэньне» 13 ' 1989

# Багаслаўленьне беларускаму народу

**Евангельскі святар а. Эрнст Сабіла:**

Дарагія сябры, я перад вамі ад імя шчырых беларускіх сьвятароў.

Па-чалавечаму, цераз Чарнобыль, мы няшчасныя. Страшная бяда зваліўся на нас. Але па-Божаму вы, дарагія сябры, шчасьлівыя. Бо ня я вам кажу, а Бог кажа вам цераз сваё слова: «Хто прыняў хоць аднаго Майго пасланьніка, той прыняў Мяне».

А цяпер расчыніце сэрцы вашыя перад малітвай і багаслаўленьнем Божым.

Ойча Наш Нябёсны, Спадару-Божа наш! Хай сьвяціцца імя Тваё. Хай будзе воля Твая — і на Беларусі, як у Цябе на небе.

Малітва мая перад Табою, у імя Ісуса Хрыста, за тыя ахвяры, душы каторых адышлі на ўлоньне Тваё: супакой душы іх! Малітва мая да Цябе за тыя ахвяры, якія пакутуюць цяжкімі пакутамі атруты чарнобыльскай: аблегчы пакуты цела, супакой душы іх. Малітва мая да Цябе за ўсе ахвяры Чарнобыля: пашлі дапамогу Тваю целам і душам іх. Малітва мая да Цябе за мой шматпакутны беларускі народ: духам Тваім сьвятым напоўні дух майго народа — на непахіснае змаганьне за Тваю сьвятую Божую праўду і за добрую праўду чалавечую.

Хай праслявіцца імя Тваё сьвятое ў сэрцах прысутных і ў сэрцах усяго майго беларускага народа. У імя Айца, і Сына, і Сьвятога Духа. Амэн.

**Сьвятар Праваслаўнай царквы а. Аляксей Шынкевіч:**

Дарагія браты і сёстры, дарагія суайчыньнікі зямлі Беларускай!

Зь першага дня Чарнобыльскай трагедыі Праваслаўная царква ўзносіла свае малітвы аб тых, хто стаў ахвярай. Цяжка сказаць, але многія з вас засьведчылі аб тым, што адкрыта пэўная старонка вядомага адкравенія Сьвятага Апостала Іаана-Багаслова. Пагэтаму, дарагія мае, давайце разам усе прасіць Уладара неба і зямлі, Тварца і нашага Спасіцеля, Госпада Ісуса Хрыста аб тым, каб гэта ніколі больш ня здарылася.

Хай будзе Божая багаславенства над тымі, хто зараз змагаецца за сапраўды Божую справу, за Божую справядлівасьць. Хаця, трэба адзначыць, што гэвы шлях вельмі цяжкі, гэты шлях сапраўды пакутніцкі. Прызываю, як сьвятар Праваслаўнай царквы, Божае багаслаўленьне на ўвесь пакутны беларускі народ, на працу Народнага Беларускага Фронту, на ўсіх тых, хто сёньня разам з намі прысутнічае на гэвым мітынгу. У імя Айца, і Сына, і Сьвятага Духа, Ды захавае ўсіх нас Гасподзь. Амінь.




# «ЧАРНОБЫЛЬСКІ ШЛЯХ»

«А детишки трёхногие, безрукие. Вы знаете, что такое мутация? Это когда куры дичают, собираются в стаи и гоняются за лисами, загоняют и убивают».

**Матэрыял, прысьвечаны акцыі «Чарнобыльскі шлях» чытайце ў наступным нумары.**

# Кроніка

**11 кастрычніка, Менск.** У гэты дзень на ўласнай кватэры быў арыштаваны старшыня камітэту «Дзеці Чарнобыля», сябра Сойму БНФ «Адраджэньне» Генадзь Грушавы. Пад міліцэйскім канвоем ён быў дастаўлены ў РАУС Маскоўскага раёна, дзе сьледчы Ганковіч прымушаў яго падпісаць загадзя складзены пратакол, у якім, у прыватнасьці, было зазначана, што як адзін з арганізатараў несанкцыяванага мітынгу-шэсьця «Чарнобыльскі шлях», Г. Грушавы абвінавачваецца ў парушэньні руху грамадскага транспарту і стварэньні «рэальнай пагрозы жыццю людзей». Пад час гадзіннай размовы Г. Грушавы пераканаў сьледчага ў няслушнасьці сфабрыкаванага пратаколу і дамогся, каб яго перапісалі. Аднак намесьнік начальніка РАУС сур'ёзна абурыўся такой наіўнасьцю старэйшага лейтэнанта Ганковіча і вырак: «Никакой самодеятельности! Все делать, как договорились».

Пасьля ў прымусовым парадку Г. Грушавога завезьлі ў суд Маскоўскага раёна. Яму не дазволілі запрасіць адваката, прадставіць суду дакументы, якія б пралілі сьвятло на арганізацыю мітынга, нават забаранілі карыстацца тэлефонам.

**11 кастрычніка, Гародня.** У горадзе распачаўся збор подпісаў пад патрабаваньнем неадкладна адмяніць рашэньне Маскоўскага раённага суда г. Менска аб пакараньні арганізатараў «Чарнобыльскага шляху» Генадзя Грушавога і Юрыя Хадыкі (першы атрымаў 300 рублёў штрафу, другі — 2 месяцы папраўчых работ з утрыманьнем 20% заробку). Адпаведныя лісты накіравалі ў Вярхоўны Савет БССР рабочыя ВА «Азот», выкладчыкі і студэнты універсітэту і медінстытуту, шматлікія жыхары горада. Гарадзенская Рада БНФ наладзіла пікетаваньне дзеля збору грашовых сродкаў на выплату штрафаў.

Грошы на выплату штрафаў зьбіраюцца таксама ў Нароўлі, Хойніках, Бабруйску, Менску і іншых гарадах Беларусі.

**(Працяг на стар. 4)**

# УХВАЛА

## НАРОДНАГА ШЭСЬЦЯ І МІТЫНГУ «ЧАРНОБЫЛЬСКІ ШЛЯХ»

Змарнаваны час, калі рашучыя захады маглі б ўратаваць людзей ад чарнобыльскай радыяцыі. Гэта прывяло да росту захворваньняў. Есьць першыя выпадкі нараджэньня пакалечаных радыяцыяй дзяцей. Для нашай нацыі няма сёньня бяды большай, чым гэтая — пагроза выраджэньня, фізічнай сьмерці. Бязьдзейнасьць уладаў, дэзінфармацыя і замоўчваньне сапраўднай небясьпекі спарадзілі няўпэўненасьць у будычыні, страх за жыцьё і лёс сваіх дзяцей. У Рэспубліцы, асабліва ў заражаных зонах, склалася нервовае, напружанае становішча. Людзі Беларусі адчуваюць сябе аб'ектам злачынных медыка-радыялагічных досьледаў.

Чацьвёрты год працягваецца вытворчасьць заражанай рацыяцыяй сельскагаспадарчай прадукцыі, якая цалкам спажываецца ў Рэспубліцы. У Саюз жа па-ранейшаму пастаўляецца толькі «чыстая» прадукцыя. Радыяцыі не баяцца хіба толькі тыя, хто харчуецца сьпецпрадуктамі са сьпецгаспадарак.

Удзельнікі мітынгу патрабуюць:

1. У аснову дзяржаўнага плану па выратаваньні ахвяраў Чарнобыльскай катастрофы павінна быць пакладзеная не маскоўская канцэпцыя «35 бэр за жыцьцё», якая, па сутнасьці, ператварае пятую частку Беларусі ў радыялепразорый, а канцэпцыя беларускіх вучоных: там, дзе нельга атрымліваць «чыстую» прадукцыю харчаваньня, людзям нельга жыць.

2. Адсяленьне насельніцтва (калектыўнае і індывідуальнае) з радыяцыйна заражаных зонаў павінна адбывацца ў межах Беларусі, пачынаючы зь 1 студзеня 1990 году, з выплатай абавязковай кампенсацыі (у грашовым і матэрыяльным выражэньні) за страту здароўя, гаспадаркі і на сацыяльную адаптацыю. Неабходна прызнаць непарушным права кожнага чалавека самому вырашаць, заставацца яму ў заражанай зоне ці выязджаць зь яе.

3. Распачаць крымінальную справу па факту службовага злачынства — стварэньня штучнай сакрэтнасьці і сьвядомага непрыняцьця неабходных мераў па абароне і выратаваньні людзей — супраць былога Першага сакратара ЦК КПБ Мікалая Сьлюнькова, былага Старшыні Вярхоўнага Савету БССР Георгія Таразевіча, Старшыні Савета Міністраў БССР Міхаіла Кавалёва, начальніка Штабу грамадзянскай абароны БССР Аверкія Грышагіна, старшыні Дзяржаграпраму БССР, намесьніка Старшыні Савета Міністраў БССР Юрыя Хусаінава, былога галоўнага санітарнага ўрача БССР цяперашняга намесьніка кіраўніка спраў Савета Міністраў БССР Віктара Бур'яка, галоўнага санітарнага ўрача СССР Аляксандра Кандрусёва.

4. Ад Савета Міністраў СССР выдзеліць за кошт бюджэту Міністэрства атамнай энергетыкі неабходныя сродкі для ажыцьцяўленьня праграмы адсяленьня беларускага насельніцтва з радыяцыйна заражаных зонаў. Адно з паседжаньняў бягучай Сесіі Вярхоўнага Савету СССР павінна быць прысьвечана чарнобыльскай прабleме. Увесьці ў парадак дня 2-га Зьезду народных дэпутатаў СССР пытаньне аб ліквідацыі вынікаў Чарнобыльскай аварыі на Беларусі і ў іншых месцах.

5. Вызваліць ад займаемых пасадаў Першага сакратара ЦК КПБ Яфрэма Сакалова і Старшыню нацыянальнага камітэту па радыяцыйнай абароне акадэміка АМН СССР Леаніда Ільіна як асобаў, якія праводзяць, сьвядома патураюць і апраўдваюць атынародную, антыгуманную палітыку, накіраваную супраць выратаваньня людзей Беларусі.

6. Да 1-га лістапада 1989 г. апублікаваць праграму адсяленьня беларускага насельніцтва ў межах Беларусі з радыяцыйна заражаных зонаў Рэспублікі.

7. На наступнай сесіі Вярхоўнага Савета БССР прыняць патрабаваньні жыхароў Беларусі. Вярхоўны Савет, які ня можа выканаць патрабаваньні народа, павінен скласьці свае паўнамоцтвы і самараспусьціцца.

Удзельнікі мітынгу выказваюць спачуваньне людзям, што знаходзяцца ў радыяцыйна заражаных зонах Украіны, а таксама якія жывуць у заражаных радыяцыяй зонах Браншчыны і Смаленшчыны і аб трагічным стане якіх гэтак жа мала вядома ў сьвеце, як і пра становішча ў БССР. Удзельнікі мітынгу спадзяюцца, што ўрады РСФСР і СССР зробяць усё дзеля выратаваньня гэтага крэўнага нам насельніцтва, што трапіла ў атамную бяду.

Удзельнікі мітынгу лічаць, што выратаваньне народа ад чарнобыльскай радыяцыі немагчымае без дэмакратызацыі палітычнай сістэмы і стварэньня прававых узаемаадносін у грамадстве. Вырашэньне чарнобыльскага пытаньня залежыць ад выбараў у Саветы. Афіцыйны праект Закона аб выбарах, прадстаўлены на абмеркаваньне, не знайшоў падтрымкі ў грамадскасьці.

Патрабуем ад Вярхоўнага Савета БССР: надрукаваць у перыядычным друку да 7-га кастрычніка Ініцыятыўны праект Закона аб выбарах народных дэпутатаў БССР, падрыхтаваны Беларускім Народным Фронтам «Адраджэньне».

Калі ня будзе зацьверджаны дэмакратычны Закон аб выбарах — тады адзіны шанц, які застаецца працоўным Рэспублікі, каб адстаяць свае права, — усеагульная палітычная забастоўка.

Прынята на мітынгу «Чарнобыльскі шлях» аднагалосна.

30 верасьня 1989. г. Менск.

# народных дэпутатаў БССР

жаўныя і грамадскія органы, да прадпрыемстваў, установ, арганізацый і іх кіраўнікоў, якія абавязаны разгледзець паўстаўленае пытаньне і даць выбарчай камісіі адказ не пазьней чым у трохдзённы тэрмін.

6. Член выбарчай камісіі па яе рашэньні можа вызваляцца на час падрыхтоўкі і правядзеньня выбараў ад вытворчых або службовых абавязкаў з захаваньнем сярэдняй заработнай платы за кошт сродкаў, прызначаных на правядзеньне выбараў.

7. Рашэньні і дзеяньні выбарчай камісіі могуць быць абскарджаны ў вышэйстаячую камісію, а таксама ў суд. Рашэньне па скарзе прымаецца не пазьней чым у сямідзённы тэрмін.

**АРТЫКУЛ 9. Сьпісы выбаршчыкаў**

1. У сьпіс выбаршчыкаў уключаюцца ўсе грамадзяне БССР, якія дасягнулі да дня або ў дзень галасаваньня 18 гадоў (і маюць права на ўдзел у выбарах) і якія пастаянна жывуць на тэрыторыі дадзенага выбарчага ўчастку.

2. Выбаршчык ня можа быць уключаны ў сьпісы выбаршчыкаў на двух і больш выбарчых участках.

3. Для ўдзелу ў рабоце па складаньні сьпіса выбаршчыкаў участковая выбарчая камісія можа запрашаць прадстаўнікоў грамадскасьці.

4. Выканаўчыя камітэты мясцовых Саветаў народных дэпутатаў забясьпечваюць улік выбаршчыкаў і перадаюць участковым камісіям неабходныя зьвесткі пра выбаршчыкаў, якія жывуць на тэрыторыі адпаведнага выбарчага ўчастку.

5. На асобных выбарчых участках, якія ўтвораны ў санаторыях і дамах адпачынку, бальніцах і іншых месцах часовага знаходжаньня выбаршчыкаў, сьпісы выбаршчыкаў складаюцца на аснове зьвестак, дадзеных кіраўнікамі названых установ.

6. Прозьвішчы выбаршчыкаў запісваюцца ў сьпіс выбаршчыкаў у тым парадку, які зручны для арганізацыі і правядзеньня галасаваньня.

7. Сьпісы выбаршчыкаў падпісваюцца старшынёй і сакратаром участковай выбарчай камісіі.

8. Сьпісы выбаршчыкаў падаюцца для агульнага азнаямленьня за 15 дзён да галасаваньня, а на выбарчых участках, утвораных у санаторыях і дамах адпачынку, бальніцах і іншых месцах часовага знаходжаньня выбаршчыкаў, — за два дні да галасаваньня. Выбаршчыкам забясьпечваецца магчымасьць пазнаёміцца са сьпісам у памяшканьні ўчастковай выбарчай камісіі і праверыць правільнасьць яго складаньня.

9. Кожны выбаршчык мае права абскардзіць няправільнае ўключэньне або выключэньне са спісу, а таксама дапушчаныя ў сьпісе недакладнасьці адносна зьвестак пра выбаршчыка.

10. Заяву выбаршчыка ўчастковая выбарчая камісія разглядае не пазьней чым у двухдзённы тэрмін, а напярэдадні і ў дзень галасаваньня — неадкладна. Камісія абавязана зрабіць неабходныя зьмены ў сьпісе або выдаць заяўніку копію матываванага рашэньня аб адхіленьні яго заявы. Гэтае рашэньне можа быць абскарджана ў раённы (гарадскі) суд, які абавязаны разглядзець скаргу ў трохдзённы тэрмін.

11. Пры перамене выбаршчыкам месца свайго знаходжаньня ў перыяд паміж паданьнем сьпісаў выбаршчыкаў для агульнага азнаямленьня (за 15 дзён да галасаваньня) і днём галасаваньня ўчастковая выбарчая камісія па просьбе выбаршчыка і пры наяўнасьці ў яго пашпарта або іншага пасьведчаньня асобы, выдае яму бланк даверанасьці выбаршчыка. Пры гэтым у асноўным сьпісе выбаршчыкаў робіцца адпаведная адзнака.

Выбаршчык запісвае ў бланк прозьвішча таго кандыдата ў дэпутаты, за якога аддае свой голас, і перадае апячатаны канверт з бланкам даверанасьці на захаваньне ўчастковай выбарчай камісіі. Пры гэтым выбаршчык расьпісваецца: у асобым сьпісе выбаршчыкаў, на канверце з бланкам даверанасьці і на самім бланку даверанасьці.

12. Выбаршчыкі асобных выбарчых участкаў, г. зн. выбаршчыкі, якія знаходзяцца ў службовых камандзіроўках, у санаторыях і дамах адпачынку, бальніцах і іншых месцах часовага знаходжаньня, маюць права на ўдзел у галасаваньні толькі па месцы пастаяннага жыхарства. Агульны парадак галасаваньня дадзеных выбаршчыкаў на кожных выбарах вызначаецца Цэнтральнай камісіяй па выбарах народных дэпутатаў БССР.

**АРТЫКУЛ 10. Вылучэньне кандыдатаў у дэпутаты.**

1. Права на вылучэньне кандыдатаў у народныя дэпутаты БССР мае кожнае пастаяннае або часовае аб'яднаньне выбаршчыкаў, сумесная працоўная або іншая грамадская дзейнасьць якіх не прызнана судом супрацьзаконнаю.

2. Вылучэньне кандыдатаў у дэпутаты пачынаецца ў дзень публікацыі ў друку складу акруговай выбарчай камісіі (за два месяцы да першага тура галасаваньня) і працягваецца адзін месяц.

3. Вылучэньне кандыдатаў у дэпутаты праводзіцца на сходах выбаршчыкаў: сходах (канферэнцыях) працоўных калектываў, канферэнцыях (зьездах) грамадскіх арганізацый БССР (або іх абласных, гарадскіх і раённых аддзяленьняў), сходах выбаршчыкаў па месцы жыхарства і вайскоўцаў па воінскіх часьцях.

Сход выбаршчыкаў па месцы жыхарства склікаецца акруговай выбарчай камісіяй на падставе калектыўнай заявы выбаршчыкаў (ня менш чым 30 чалавек). Сход правамоцны, калі на ім прысутнічае ня менш чым 500 выбаршчыкаў, якія жывуць на тэрыторыі дадзенай выбарчай акругі.

4. Вылучэньне кандыдатаў у дэпутаты праводзіцца таксама шляхам збору подпісаў выбаршчыкаў. Пратакол аб вылучэньні кандыдата ў дэпутаты правамоцны, калі яго падпісалі ня менш чым 250 выбаршчыкаў дадзенай выбарчай акругі. У пратаколе адзначаецца: прозьвішча, імя і імя па бацьку, год нараджэньня, а таксама хатні адрас кожнага выбаршчыка, які падпісаў пратакол.

5. Сход выбаршчыкаў мае права вылучыць кандыдата ў дэпутаты па той выбарчай акрузе, на тэрыторыі якой жыве большасьць удзельнікаў сходу. Сход мае права вылучыць аднаго кандыдата ў дэпутаты, незалежна ад месца яго працы і жыхарства ў межах БССР.

6. Кожны ўдзельнік сходу выбаршчыкаў мае права прапаноўваць для абмеркаваньня ў якасьці кандыдата ў дэпутаты адну або некалькі кандыдатур (у тым ліку і сваю), удзельнічаць у іх абмеркаваньні, падтрымліваць або выказвацца супраць прапанаваных кандыдатаў.

7. Рашэньне аб вылучэньні кандыдатаў у дэпутаты прымаецца тайным або адкрытым (па рашэньні сходу) галасаваньнем асобна па кожнай прапанаванай кандыдатуры. Вылучаным лічыцца той кандыдат, за якога прагаласавала больш чым палова ўдзельнікаў сходу і які атрымаў найбольшую колькасьць галасоў.

8. Пратакол аб вылучэньні кандыдата ў дэпутаты перадаецца сакратаром сходу выбаршчыкаў у акруговую выбарчую камісію ў трохдзённы тэрмін. Аб прынятым рашэньні сходу выбаршчыкаў кандыдату ў дэпутаты паведамляецца акруговай выбарчай камісіяй не пазьней чым у двухдзённы тэрмін.

**АРТЫКУЛ 11. Рэгістрацыя кандыдатаў у дэпутаты**

Права **рэгістрацыі** кандыдатаў у народныя дэпутаты БССР мае акруговая выбарчая камісія. Падставай для рэгістрацыі зьяўляецца наяўнасьць у выбарчай камісіі пратакола сходу (пратакола збору подпісаў) выбаршчыкаў аб вылучэньні кандыдата ў дэпутаты па дадзенай выбарчай акрузе, а таксама пісьмовай заявы кандыдата ў дэпутаты аб згодзе балатавацца па дадзенай выбарчай акрузе. Рашэньне аб рэгістрацыі кандыдата ў дэпутаты прымаецца выбарчай камісіяй не пазьней чым у сямідзённы тэрмін з дня падачы кандыдатам заявы.

2. Асобы, пералічаныя ў артыкуле 2 дадзенага Закону, абавязаны пацьвердзіць у заявах гатоўнасьць адмовіцца ад сваіх дэпутацкіх паўнамоцтваў або кіраўнічых пасад у выпадку абраньня іх народнымі дэпутатамі БССР. Асобам, пералічаным у частцы 8 артыкула 2, неабходна акрамя таго мець адпаведную пісьмовую згоду вышэйстаячага кіраўніцтва (камандаваньня) адносна гатоўнасьці кандыдата ў дэпутаты адмовіцца ад пасады, несумяшчальнай са статусам народнага дэпутата БССР.

3. Кандыдат у дэпутаты мае права балатавацца толькі па адной выбарчай акрузе.

4. Акруговая выбарчая камісія складае пратакол аб рэгістрацыі кандыдата ў дэпутаты, уключае яго ў сьпіс кандыдатаў ў дэпутаты, зарэгістраваных па дадзенай выбарчай акрузе і выдае яму пасьведчаньне кандыдата ў дэпутаты.

5. Адмова ў рэгістрацыі кандыдата ў дэпутаты можа быць абскарджана ў трохдзённы тэрмін у раённы (гарадскі) народны суд, які абавязаны разглядзець скаргу ў пяцідзённы тэрмін.

6. Кандыдат у дэпутаты ня можа ўваходзіць у склад Цэнтральнай, акруговай або ўчастковай выбарчай камісій. Асоба, якая ўваходзіць у склад выбарчай камісіі, лічыцца вызваленай ад абавязкаў у камісіі з моманту рэгістрацыі яе кандыдатам у дэпутаты.

7. Акруговая выбарчая камісія публікуе ў друку паведамленьне аб рэгістрацыі кандыдата ў дэпутаты не пазьней чым у трохдзённы тэрмін з дня прыняцьця рашэньня аб рэгістрацыі. У паведамленьні аб рэгістрацыі павінны быць названы: прозьвішча, імя, імя па бацьку, год нараджэньня, пасада (занятак), партыйнасьць, месца работы і жыхарства кандыдата ў дэпутаты.

8. Рэгістрацыя кандыдатаў у дэпутаты спыняецца за адзін месяц да дня першага тура галасаваньня.

**АРТЫКУЛ 12. Адклíканьне кандыдатаў у дэпутаты. Самаадвод кандыдатаў у дэпутаты.**

1. Права адклíканьня кандыдата ў народныя дэпутаты БССР мае сход выбаршчыкаў, які вылучаў дадзенага кандыдата. Рашэньне аб адклíканьні кандыдата ў дэпутаты прымаецца ў тым парадку, які прадугледжаны для вылучэньня кандыдатаў, і ў любы час да дня першага тура галасаваньня. Кандыдат у дэпутаты лічыцца адклíканым, калі на кожны пратакол сходу (пратакол збору подпісаў) выбаршчыкаў аб вылучэньні дадзенага кандыдата ў акруговай выбарчай камісіі ёсць адпаведны пратакол аб яго адклíканьні.

2. Кандыдат у дэпутаты ў любы час можа зьняць сваю кандыдатуру, зьвярнуўшыся зь пісьмоваю заяваю ў акруговую выбарчую камісію. Матывацыя рашэньня кандыдата аб самаадводзе ў такіх выпадках неабавязковая.

3. Паведамленьне аб адклíканьні кандыдата ў дэпутаты або аб самаадводзе кандыдата публікуецца ў друку ў трохдзённы тэрмін акруговай выбарчай камісіяй.

4. У выпадку выбыцьця кандыдата ў дэпутаты пасьля таго, як выбарчыя бюлетэні ўжо надрукаваныя, галасаваньне праводзіцца па гэтых жа бюлетэнях. Галасы па прозьвішчах выбыўшых кандыдатаў у дэпутаты ў такіх выпадках не падлічваюцца.

5. У выпадку, калі да дня першага тура галасаваньня застаецца менш чым месяц і калі ў выніку выбыцьця кандыдатаў у дэпутаты па дадзенай выбарчай акрузе ў сьпісе зарэгістраваных кандыдатаў застаецца менш чым дзве кандыдатуры, прызначаюцца паўторныя выбары.

**АРТЫКУЛ 13. Гарантыі дзейнасьці кандыдатаў у дэпутаты**

1. Кандыдат у народныя дэпутаты БССР з моманту яго рэгістрацыі акруговай выбарчай камісіяй ня можа быць прыцягнуты да крымінальнай адказнасьці, арыштаваны або пакараны ў судовым парадку ці адміністрацыйнымі мерамі спагнаньня бяз згоды Цэнтральнай выбарчай камісіі.

2. Зарэгістраваны кандыдат у дэпутаты мае права на бясплатны праезд на ўсіх відах пасажырскага транспарту (акрамя таксі) у межах адпаведнай выбарчай акругі. Праязныя білеты аплачваюцца акруговай выбарчай камісіяй са сродкаў, прызначаных для правядзеньня выбараў. Кандыдат у дэпутаты, які жыве за межамі выбарчай акругі, карыстаецца такім жа правам для праезду ў выбарчую акругу і вяртаньня да месца жыхарства.

3. Зарэгістраваны кандыдат у дэпутаты мае гарантаванае права вызваляцца ад выкананьня вытворчых або службовых абавязкаў тэрмінам да аднаго месяца без захаваньня заробку. Грашовая кампенсацыя з захаваньнем сярэдняй заработнай платы даецца абраным дэпутатам, а таксама кандыдатам, якія прайшлі ў другі тур галасаваньня. Кандыдаты ў дэпутаты, дапушчаныя да другога туру галасаваньня, маюць права вызваляцца ад выкананьня вытворчых або службовых абавязкаў тэрмінам да двух тыдняў з захаваньнем сярэдняй заработнай платы за кошт сродкаў, прызначаных для правядзеньня выбараў.

4. Зарэгістраваны кандыдат у дэпутаты можа мець да 10 давераных асобаў, якія дапамагаюць яму ў правядзеньні выбарчай кампаніі і вядуць агітацыю за абраньне яго дэпутатам.

Даверанымі асобамі кандыдата ў дэпутаты ня могуць быць члены выбарчых камісій.

Дзеяньні грамадзян, якія ня ўключаны ў сьпіс давераных асобаў кандыдата ў дэпутаты і выступаюць ад яго імя, могуць быць абскарджаны кандыдатам у дэпутаты ў раённы (гарадскі) суд.

5. Зарэгістраваныя кандыдаты ў дэпутаты маюць роўнае права выступаць на перадвыбарчых і іншых сходах выбаршчыкаў, выкладаць у друку, па тэлебачаньні і радыё свае праграмы. Праграма кандыдата ў дэпутаты не павінна зьмяшчаць заклікаў да гвалтоўнага зьвяржэньня існуючага дзяржаўнага і грамадскага ладу, заклікаў да насильля і тэрару, да вайны і распальваньня міжнацыянальнай варожасьці.

6. Дзяржаўныя і грамадскія органы, кіраўнікі прадпрыемстваў, установаў, арганізацый, органы грамадскай самадзейнасьці насельніцтва абавязаны садзейнічаць кандыдатам у дэпутаты ў арганізацыі сустрэч з выбаршчыкамі, у атрыманьні неабходных даведачных і інфармацыйных матэрыялаў.

**АРТЫКУЛ 14. Перадвыбарчая агітацыя**

1. Грамадзянам БССР, працоўным калектывам, грамадскім аргранізацыям і іншым аб'яднаньням выбаршчыкаў гарантуецца магчымасьць свабоднага і ўсебаковага абмеркаваньня палітычных, дзелавых і асабістых якасьцяў кандыдатаў у дэпутаты, а таксама права агітацыі за або супраць кандыдатаў у дэпутаты, на сходах, мітынгах, у друку, па тэлебачаньні, радыё і ў іншых зручных для выбаршчыкаў і не забароненых заканадаўствам БССР формах.

2. Агітацыя ў дзень галасаваньня забараняецца.

**АРТЫКУЛ 15. Першы тур галасаваньня**

1. Першы тур галасаваньня праводзіцца ў прызначаны Вярхоўным Саветам БССР дзень з 7 да 22 гадзін па мясцовым часе. Пра час і месца галасаваньня ўчастковая выбарчая камісія паведамляе выбаршчыкам не пазьней чым за тыдзень да галасаваньня.

2. У выбарчы бюлетэнь уключаюцца ў алфавітным парадку ўсе кандыдаты ў дэпутаты, зарэгістраваныя па дадзенай выбарчай акрузе. У бюлетэні называюцца: прозьвішча, імя, імя па бацьку, пасада (занятак), партыйнасьць, месца работы і жыхарства кожнага кандыдата ў дэпутаты.

Бюлетэнь друкуецца на беларускай мове.

3. Галасаваньне правамоцнае, калі ў ім ўдзельнічае больш чым палова выбаршчыкаў дадзенай выбарчай акругі.

4. Пры галасаваньні выбаршчык пакідае ў бюлетэні нявыкрасьленае прозьвішча кандыдата, за якога ён галасуе.

Бюлетэні, у якіх пакінуты больш чым адзін кандыдат у дэпутаты, лічацца несапраўднымі. Бюлетэні, у якіх выкрасьлены прозьвішчы ўсіх кандыдатаў у дэпутаты, лічацца сапраўднымі.

Прозьвішчы грамадзян, дадаткова ўпісаныя выбаршчыкам у выбарчы бюлетэнь, ня ўлічваюцца.

5. Дэпутат лічыцца абраным, калі за яго прагаласавала больш чым палова выбаршчыкаў, якія ўдзельнічалі ў галасаваньні.

6. Калі ніводзін кандыдат у дэпутаты не атрымаў больш чым палову галасоў выбаршчыкаў, якія ўдзельнічалі ў галасаваньні, прызначаецца другі тур галасаваньня.

7. Калі па выбарчай акрузе балатаваліся толькі два кандыдаты ў дэпутаты і абодва атрымалі менш чым палову галасоў выбаршчыкаў, якія ўдзельнічалі ў галасаваньні, прызначаюцца паўторныя выбары.

**АРТЫКУЛ 16. Другі тур галасаваньня.**

1. Другі тур галасаваньня праводзіцца праз два тыдні пасьля першага тура і з захаваньнем патрабаваньняў, прадугледжаных для першага тура галасаваньня.

2. У выбарчыя бюлетэні ўключаюцца два кандыдаты ў дэпутаты, якія атрымалі большую колькасьць галасоў выбаршчыкаў на першым туры галасаваньня.

Галасаваньне па адной кандыдатуры не праводзіцца.

(Працяг на стар. 4)

# Закон аб выбарах народных дэпутатаў БССР

(Працяг са стар. 3)

3. Выбаршчыкі ўдзельнічаюць у галасаваньні па сьпісе выбаршчыкаў, складзеным для першага тура галасаваньня.

4. Дэпутатам становіцца той кандыдат, за якога прагаласавала большасьць выбаршчыкаў, што ўдзельнічалі ў галасаваньні.

5. Калі абодва кандыдаты ў дэпутаты атрымалі роўную колькасьць галасоў выбаршчыкаў, якія ўдзельнічалі ў галасаваньні, назначаецца паўторнае галасаваньне. Яно праводзіцца праз два тыдні пасьля другога тура галасаваньня.

**АРТЫКУЛ 17. Арганізацыя галасаваньня.**

1. Галасаваньне праводзіцца ў памяшканьнях, у якіх павінны быць абсталяваны ў дастатковай колькасьці кабіны або пакоі для тайнага галасаваньня, вызначана месца выдачы выбарчых бюлетэняў і ўстаноўлены выбарчыя скрыні.

2. У дзень галасаваньня і да пачатку галасаваньня выбарчыя скрыні правяраюцца, пламбіруюцца або апячатваюцца старшынёю участковай выбарчай камісіі ў прысутнасьці усіх членаў камісіі, а таксама прадстаўнікоў сродкаў масавай інфармацыі, даверанных асобаў кандыдатаў у дэпутаты, прадстаўнікоў працоўных калектываў, грамадскіх арганізацый і сходаў выбаршчыкаў па месцы жыхарства. Скрыні ўсталёўваюцца такім чынам, каб выбаршчыкі пры падыходзе да іх абавязкова праходзілі праз кабіны або пакоі для тайнага галасаваньня.

3. Кожны выбаршчык распісваецца пасля атрыманьня выбарчага бюлетэня ў сьпісе выбаршчыкаў.

4. Кожны выбаршчык галасуе асабіста і павінен мець з сабою пашпарт або іншае пасьведчаньне асобы. Галасаваньне за іншых выбаршчыкаў не дапускаецца.

Выбарчы бюлетэнь запаўняюцца выбаршчыкам у кабіне або пакоі для тайнага галасаваньня. Выбаршчык, які ня мае магчымасьці самастойна запоўніць выбарчы бюлетэнь, можа запрасіць у кабіну або пакой для тайнага галасаваньня любога грамадзяніна, акрамя таго, што ўваходзіць у склад выбарчай камісіі. Прысутнасьць іншых асоб пры запаўненьні выбаршчыкам бюлетэня ў кабіне або пакоі для тайнага галасаваньня не дапускаецца.

5. Запоўнены бюлетэнь выбаршчык апускае ў выбарчую скрыню.

6. У выпадках, калі асобныя выбаршчыкі па стане здароўя або па іншых прычынах не могуць прыйсьці ў памяшканьне для галасаваньня, участковая выбарчая камісія па іх просьбе даручае асобным членам камісіі арганізаваць галасаваньне ў месцах знаходжаньня гэтых выбаршчыкаў.

**АРТЫКУЛ 18. Вызначэньне вынікаў галасаваньня.**

1. Адчыняць выбарчыя скрыні да заканчэньня галасаваньня забараняецца. Скрыні адчыняюцца пасля абвяшчэньня старшынёю участковай выбарчай камісіі заканчэньня галасаваньня і пагашэньня участковай камісіяй нявыкарыстаных выбарчых бюлетэняў. Ускрываюцца і канверты з бланкамі даверанасьці выбаршчыкаў. Пры гэтым зьвяртаецца ўвага на подпісы на канверце, бланку і ў асобным сьпісе выбаршчыкаў.

2. Па сьпісе выбаршчыкаў вызначаецца агульная колькасьць выбаршчыкаў на ўчастку, а таксама колькасьць выбаршчыкаў, якія ўдзельнічалі ў галасаваньні. Вызначаецца таксама колькасьць бюлетэняў (бланкаў даверанасьці выбаршчыкаў) прызнаных несапраўднымі. Пры ўзьнікненьні сумненьняў наконт сапраўднасьці выбарчага бюлетэня пытаньне вырашаецца участковай выбарчай камісіяй шляхам галасаваньня.

На падставе сапраўдных бюлетэняў і бланкаў даверанасьці выбаршчыкаў вызначаецца агульная колькасьць галасоў, пададзеных за, і колькасьць галасоў, пададзеных супраць кожнага кандыдата ў дэпутаты, уключаная ў выбарчыя бюлетэні.

3. Вынікі падліку галасоў разглядаюцца на пасяджэньні участковай выбарчай камісіі і заносяцца ў пратакол. Пратакол падпісваецца старшынёю, намесьнікам старшыні, сакратаром і усімі членамі камісіі і перадаецца ў акруговую выбарчую камісію ў тым парадку, які ўстаноўлены Цэнтральнай выбарчай камісіяй.

4. На пасяджэньні участковай выбарчай камісіі (а таксама ў час галасаваньня і пры падліку галасоў выбаршчыкаў) маюць права прысутнічаць прадстаўнікі сродкаў масавай інфармацыі, даверанныя асобы кандыдатаў у дэпутаты, прадстаўнікі працоўных калектываў, грамадскіх арганізацый і сходаў выбаршчыкаў па месцы жыхарства.

5. На падставе пратаколаў участковых камісій акруговая выбарчая камісія вызначае: агульную колькасьць выбаршчыкаў па акрузе; колькасьць выбаршчыкаў, якія ўдзельнічалі ў галасаваньні; колькасьць галасоў, пададзеных за, і колькасьць галасоў, пададзеных супраць кожнага з кандыдатаў у дэпутаты па дадзенай выбарчай акрузе; колькасьць бюлетэняў, прызнаных несапраўднымі.

6. Акруговая выбарчая камісія можа прызнаць галасаваньне несапраўдным, калі выяўляцца дапушчаныя ў ходзе выбараў ці пры падліку галасоў парушэньні дадзенага Закону.

Галасаваньне прызнаецца несапраўдным, калі ў ім удзельнічала менш чым палова выбаршчыкаў дадзенай выбарчай акругі.

7. Вынікі галасаваньня па выбарчай акрузе вызначаюцца на пасяджэньні акруговай выбарчай камісіі і заносяцца ў пратакол. Пратакол падпісваецца старшынёю, намесьнікам старшыні, сакратаром і ўсімі членамі камісіі і перадаецца ў Цэнтральную выбарчую камісію ў адпаведным парадку. На пасяджэньні камісіі маюць права прысутнічаць прадстаўнікі сродкаў масавай інфармацыі, даверанныя асобы кандыдатаў у дэпутаты, а таксама прадстаўнікі працоўных калектываў, грамадскіх арганізацый і сходаў выбаршчыкаў па месцы жыхарства.

8. Паведамленьне пра вынікі галасаваньня па выбарчай акрузе публікуецца ў друку не пазьней чым на трэці дзень пасьля галасаваньня. У паведамленьні называеццца: агульная колькасьць выбаршчыкаў па акрузе; колькасьць выбаршчыкаў, якія галасавалі; колькасьць галасоў, пададзеных за, і колькасьць галасоў, пададзеных супраць кожнага кандыдата ў дэпутаты; колькасьць несапраўдных бюлетэняў; прозвішча, імя, імя па бацьку, пасада (занятак), партыйнасьць, месца работы і жыхарства двух кандыдатаў у дэпутаты, якія прайшлі ў другі тур галасаваньня, або выбранага дэпутата.

9. Акруговая выбарчая камісія мае права даваць прадстаўнікам сродкаў масавай інфармацыі паведамленьні аб папярэдніх выніках галасаваньня да публікацыі ў друку афіцыйнага паведамленьня пра вынікі галасаваньня. Паведамленьне аб папярэдніх выніках галасаваньня юрыдычнай сілы ня мае.

**АРТЫКУЛ 19. Падвядзеньне вынікаў выбараў**

1. Цэнтральная выбарчая камісія па выбарах народных дэпутатаў БССР на падставе пратаколаў акруговых выбарчых камісій рэгіструе выбраных народных дэпутатаў БССР.

2. Цэнтральная выбарчая камісія можа прызнаць выбары несапраўднымі, калі ў ходзе іх або пры падліку галасоў выяўляцца парушэньні дадзенага Закону, і адмовіць у рэгістрацыі народнага дэпутата.

Рашэньне Цэнтральнай выбарчай камісіі можа быць абскарджана ў Вярхоўны суд БССР у сямідзённы тэрмін.

3. Паведамленьне пра вынікі выбараў па Рэспубліцы і сьпіс выбраных народных дэпутатаў БССР Цэнтральная выбарчая камісія публікуе ў друку не пазьней чым у пяцідзённы тэрмін. У паведамленьні называюцца: прозвішча (у алфавітным парадку), імя, імя па бацьку, пасада (занятак), партыйнасьць, месца работы і жыхарства кожнага дэпутата, а таксама выбарчая акруга, ад якой ён абраны дэпутатам.

4. Акруговая выбарчая камісія пасьля публікацыі ў друку сьпісу народных дэпутатаў, зарэгістраваных Цэнтральнай выбарчай камісіяй, выдае дэпутату пасьведчаньне аб яго выбраньні.

5. Пасьля зацьвярджэньня Вярхоўным Саветам БССР паўнамоцтваў выбраных дэпутатаў выдадзеныя ім пасьведчаньні аб выбраньні дэпутатамі замяняюцца на пасведчаньні народнага дэпутата БССР. Дэпутату выдаецца нагрудны знак «Народны дэпутат БССР».

**АРТЫКУЛ 20. Паўторныя выбары.**

1. Паўторныя выбары народных дэпутатаў БССР вызначаюцца Цэнтральнай выбарчай камісіяй у выпадках:

— калі за месяц да першага тура галасаваньня па выбарчай акрузе балатуецца менш чым два кандыдаты ў дэпутаты;

— калі галасаваньне першага або другога тураў прызнана несапраўдным;

— калі ў выбарчыя бюлетэні для першага тура галасаваньня былі ўключаны толькі два кандыдаты ў дэпутаты і абодва атрымалі менш паловы галасоў выбаршчыкаў, якія ўдзельнічалі ў галасаваньні;

— калі паўторнае галасаваньне не дазволіла вызначыць дэпутата;

— калі ў выбарчыя бюлетэні для другога тура галасаваньня немагчыма ўключыць двух кандыдатаў у дэпутаты, набраўшых большую колькасьць галасоў на першым туры галасаваньня;

— калі паўнамоцтвы народнага дэпутата БССР не прызнаны Вярхоўным Саветам БССР;

— калі дэпутат выбыў, адкліканы або датэрмінова закончыў дэпутацкія паўнамоцтвы па іншых прычынах.

2. Паўторныя выбары прызначаюцца не пазьней чым у двухмесячны тэрмін пасьля агульных выбараў або пасьля прызнаньня дэпутата выбыўшым. Выбары прызначаюцца не пазьней чым за два месяцы да дня першага тура галасаваньня і арганізуюцца з захаваньнем патрабаваньняў дадзенага Закону.

3. У выпадку выбыцьця народнага дэпутата БССР менш чым за 9 месяцаў да заканчэньня тэрміну паўнамоцтваў народных дэпутатаў БССР паўторныя выбары не прызначаюцца.

**АРТЫКУЛ 21. Выбары Старшыні Вярхоўнага Савета БССР**

Старшыня Верхоўнага Савета БССР выбіраецца на альтэрнатыўнай аснове народнымі дэпутатамі БССР зь ліку ня менш чым двух народных дэпутатаў.

**АРТЫКУЛ 22. Адказнасьць за парушэньні заканадаўства аб выбарах народных дэпутатаў БССР.**

1. Любыя прамыя або ўскосныя абмежаваньні права грамадзяніна БССР выбіраць і быць абраным народным дэпутатам БССР у залежнасьці ад паходжаньня,сацыяльнага або маёмаснага становішча, расавай і нацыянальнай прыналежнасьці, пола, адукацыі, мовы, адносін да рэлігіі, партыйнасці, роду і характару заняткаў — забараняюцца.

2. Асобы, якія перашкаджаюць шляхам насільля, падману, пагроз або іншым спосабам свабоднаму ажыцьцяўленьню грамадзяніну БССР права выбіраць і быць абраным народным дэпутатам БССР, вылучаць кандыдатаў у дэпутаты, праводзіць агітацыю, а таксама члены выбарчых камісій, адказныя асобы дзяржаўных і грамадскіх органаў, якія зрабілі падлог выбарчых дакументаў, наўмысна няправільны падлік галасоў або дапусьцілі іншыя парушэньні дадзенага Закону, нясуць устаноўленую законам адказнасьць.

3. Да адказнасьці прыцягваюцца таксама асобы, якія апублікавалі або іншым шляхам распаўсюдзілі ілжывыя зьвесткі пра кандыдата ў дэпутаты.

# Кроніка

(Працяг са стар. 1)

**13 кастрычніка. Менск.** «Шамякін суд» Маскоўскага раёна вынес прысуд яшчэ аднаму арганізатару мітынга-шэсьця «Чарнобыльскі шлях» прафесару, намесьніку старшыні Сойму БНФ Юрыю Хадыку. Выклікае цікаўнасьць і той факт, што заява на правядзеньне шэсьця была падпісаная 636 чалавекамі, аднак апрача лідэраў БНФ нікога да судовай адказнасьці не прыцягвалі.

**18 кастрычніка, Менск.** Па загадзе ЦК КПБ з паласы «Чырвонай змены» быў зьняты і рассыпаны набор матэрыялаў круглага стала «Вялікая хлусьня», які рэдакцыя мелася перадрукаваць з газэты «Московские новости» (15 кастрычніка 1989). У публікацыі ўпершыню былі названыя імёны былога сакратара ЦК КПБ, цяперашняга члена Палітбюро, сакратара ЦК КПСС Мікалая Сьлюнькова і Старшыні Савета Міністраў БССР Міхаіла Кавалёва — службовых асобаў, адказных за замоўчваньне сапраўдных прычынаў і наступстваў Чарнобыльскай катастрофы.

**19 кастрычніка, Менск.** Мінуў роўна год, як утварыўся Аргкамітэт БНФ «Адраджэньне». За гэты час востра пастаўлены пытаньні суверэнітэту Рэспублікі, эканамічнай самастойнасьці, нацыянальнага адраджэньня. У буйных гарадах БНФ перамог на выбарах. Адбыўся Устаноўчы зьезд. Пачалося перасяленьне дзяцей з заражаных радыяцыяй зонаў. Адбылася агульнанацыянальная акцыя «Чарнобыльскі шлях». Аднак стаўленьне ўладаў да БНФ па-ранейшаму застаецца адкрыта варожым. Невыпадкова гадавіна была адзначаная не ўрачыстай асамблеяй, а юрыдычным семінарам Сойму чыста прыкладнога характару: як паводзіць сябе ў стандартных для кансэрватыўнай Рэспублікі сітуацыях — затрыманьне міліцыяй, канфіскацыя незалежнага друку, забарона на правядзеньне грамадскіх акцый. Тэма семінару была асабліва актуальная у сувязі зь мітынгам перад Домам Ураду 25—26 кастрычніка ў дні сесіі Вярхоўнага Савету (на гэты мітынг Менгарвыканкам наогул адмовіўся прыняць заяўку), а таксама гадавінай разгону сьлезацечнымі газамі і дубінкамі «Дзядоў» у кастрычніку 1988.

**23 кастрычніка, Менск.** У галоўным корпусе Белдзяржуніверсітэту Сойм БНФ наладзіў прэс-канферэнцыю аб прававым становішчы самадзейных фармаваньняў у перыяд перабудовы. Апрача журналістаў на ёй прысутнічалі народныя дэпутаты Станіслаў Шушкевіч і Аляксандр Дабравольскі, дэпутат Вярхоўнага Савету БССР Глеб Ерамееў, начальнік Упраўленьня МУС БССР Юры Пасельнікаў, пракурор Маскоўскага раёна г. Менску Валеры Сіманоўскі.. Ва ўступнай прамове сакратар Сойму БНФ Вінцук Вячорка падкрэсьліў, што неабходнасьць абмеркаваць прававае становішча ў Рэспубліцы выкліканая узмоцненым ціскам уладаў на сяброў БНФ. Была дадзеная вычарпальная інфармацыя пра ўсе выпадкі парушэньня грамадзянскіх правоў у дачыненьні да прыхільнікаў «Араджэньня». Прафесар Юры Хадыка ацаніў праваахоўную палітыку рэспубліканскіх уладаў як «прававы нігілізм». Народны дэпутат С. Шушкевіч падкрэсьліў, што на сёньняшні дзень адзінай рэальнаю альтэрнатывай — як ён выказаўся «маразматычным адносінам да рэчаіснасьці» — зьяўляецца БНФ. Надзвычай цікавы быў выступ Г. Еремеева, які распавёў, як Прэзідыум Вярхоўнага Савету БССР зыгнараваў 99% прапаноў з атрыманых 60 тысячаў водгукаў на законапраекты аб выбарах і захаваў пункты з акруговымі сходамі, квотамі ад грамадскіх арганізацыяў і забаронай байкоту выбараў.

**25—26 кастрычніка, Менск.** Два дні сесія Вярхаўнага Савету БССР знаходзілася ў аблазе. Штовечар людзі прыходзілі на плошчу перад Домам Ураду, каб выказаць нязгоду з вынесенымі на аібмеркаваньне сесіі законапраектамі аб выбарах. Першы мітыгн быў адціснуты на пляцоўку перад Палацам палітасьветы. 26 кастрычніка ўсе падыходы зноў былі перакрытыя, але шматтысячная грамада зьняла першыя ланцугі міліцыянтаў. Эксцэс прадухілілі народныя дэпутаты Станіслаў Шушкевіч, Ігар Абламейка і дэпутат Вярхоўнага Саветў БССР Глеб Ерамееў, якія сьцьвярджалі, што сесія схіляецца да адмены антыдэмакратычных пунктаў законапраектау.



Выданьне рэлакцыйнай камісіі БНФ «Адраджэньне». Нумар падрыхтавалі: Алесь Гуркоў, Сергей Дубавец, Павел Жук, Алесь Суша (рэдактар). Адрас для карэспандэнцыі: 220113, Менск, абанементная скрыня 327. Меркаваньне аўтарў публікаваных матэрыялоў не абавязкова супадае зь меркаваньнем рэдакцыі і кірауніцтва БНФ. Нагадваем, што без Вашых ахвяраваньняў выданьне «Навін» стане немагчымым. Высокі друк. Фармат 1 друкаваны аркуш. Наклад 15000. Заказ № 2.